**А. Л.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ

## Статыстычные і гістарычные матэрыялы.

**Выданне Народнага Сэкрэтарства Міжнародовых Справау.**



МЕНСК.
Друкарня Я. А. Грынвлята.
1918.

Цэна—40 кап.

А. І.

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

Статыстычные і гістарычные матэрыялы.

Выданне Народнага Сэкрэтарства Міжнародовых Справау.



МЕНСК.
Друкарня Я. А. Грынблята.
1918.

Выдана па распараджэнню Народнаго Сэкрэтарства Міжнародовых Справаў. Журн. Паст. Народнаго Сэкрэтарыяту ад 22 чэрвеня 1918 года, п. 5.



**БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА „АДРАДЖЭНЬНЕ". МЕНСК, 1993**

*заказ 26*

*выданне падрыхтавана па экземпляру з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

Пачатковая нямецкая окупацiя 1915 году раздзялiла Беларусь на дзьве часьцi, i пад той час, як заходная часць дзялiла добрую i благую долю з Лiтвой, усходняя Беларусь далей аставалася пад уласьцю Расейскае Iмперi. У межах апошняе апынулася пераважываючая часць Беларускай зямлi з насяленьнем каля 8 мiльенау душ. Да яе належалi: часць Вiленскай губ., безмала уся Менская, Вiтэбская, Магiлеуская, часць Смаленскай i Чарнiгаускай губэрнiй.

Паводлуг расейскай урадовай статыстыкi с прадваеннаго часу 1897 году, скоррыгованай праф. Е. Карскiм (у 1903), у Менскай губернi чысло беларусау выражалося цыфрай=1755.690 душ, а працентные адносiны iх да агульнаго чысла жыхароу паводлуг паветау былi гэткiе: Навагрудзкi пав.—84,0%, Рэчыцкi—84,3%, Менскi—83,6%, Барысаускi—81,1%, Слуцкi—79,4%, Iгуменскi—82,6%, Бабруйскi—68,0%, Мазырскi—79,6%, Пiнскi—74,9%, Агульны працент па губернi—76,5%".

У Магiлеускай губ. агульнае чысло=1.650.069. Працэнтные адносiны да усяго насяленьня губернi: Чэрыкоускi пав.—89,6%, Быхаускi—88,6%, Рагачоускi—87,0%, Сеннiцкi—85,6%, Горэцкi—85,4% Клiмовiцкi—83,1%, Мсьцiслаускi—81,5%, Оршанскi—

80,0%, Чаускі—89,6%, Гомельскі—74,6%, Магілеускі—70,0%. Па усей губэрні беларусоу 82,6%.

У Вітэбскай губ число беларусай=976.638. %% паветах: Дрыссенскі— 86,2%, Веліжскі—85.7%, Нэвэльскі—84,0%, Гарадэцкі—83,6%, Лепэльскі—82,0% Полацкі—73,1%, Вітэбскі—51,1%, Себожскі—47,1%, Люцынскі—20,5%, Дзвінскі—13,8%, Рэжыцкі—5,4%.

У Смаленскай губ.=947,826 беларусау, глауным чынам у заходнім паветах: Бельскім, Дарагабужскім, Ельнінскім, Красненскім, Рослаульскім і Смаленскім.

У Чарнігаускай губ. беларусау=700.000. Яны жывуцьу паветах: Гародненскім, Ноугарад-Северскім, Навазыбкаускім, Старадубскім, Суражскім.

У Віленскай губ. беларусы станавілі: у Вілейскім—87% і у Дзісьненскім—81,2%.

Апрыч гэтаго баларусы есць у невялікім чысле і у іншых суседніх губэрнях, але становяць там толькі незначную меншасць.

Нацыональные меншасьці прэдстаулены гэтак:

Найбольш численую; пасьля беларусау, групу становяць жыды.

Гэта переважна местовы элемэнт: па местах і мястэчках жыды даходзяць ад 44 да 80%% і болей. Затое за межамі мест %% жыдоу вагаюцца ад 5% у Вітэбскаі губ. да 11% (максімум) у Менскай.

Палякі, жывучы у больш значным чысле у западняй Беларусі, у усходніх губэрнях становяць зусім малы працэнт. У Вітэбскай і Менскай губэрнях палякоу ня больш 2,5% а у Магілеускай толькі 0,9%. Яшчэ меншы працэнт палякоу у Смаленшчыне і Чарнігаушчыне. Да этаго трэба дадаць, што у

заходняй Беларусі польскі элемэнт—гэта бадай выключна вялікшая зямельная буржуазія, каторая праз свае соцыальнае становішчэ стаіць вельмі далека ад баларускіх народных масс, ад каторых яна рэзка аддзелена такжэ і рэлігіей: тут беларусы перэважна праваслауные. Толькі у часе вайны у заходнюю Беларусь панаехало много палякоу—ваенныхъ выселенцау, каторые належаць на усіх станоу, але пасьля ліквідацыі вайны бязспорна вернуцца назад да Польшчы.

Вялікорусы па усей Беларусі, як усходняй, так і заходняй, перад вайной былі прэдстаулены перэважна элементам прывозным-чыноуніцкім, часьцю землеуласнікамі, а также вялікарускімі селянамі-колоністамі, выключна стараверамі.

Паказаные вышей абсолютные цыфры беларускаго насяленьня бязспорна значна узрасьлі да нашых дзен. Але і вайна памагла концэнтрацыі беларускіх элементау па гэты бок ваеннаго фронту: расейскі урад выгнау з Віленшчыны і Гродзеншчыны цэлые массы народу, а у тым ліку безмала усю беларускую інтэлігэнцію. Былі вывезены усе, хто быу на казеннай службе, а у тым ліку усе народные вучыцелі, вучыцелі сярэдных школ, праваслауные сьвяшчэнікі, і т. д., і, само сабой разумеецца, што усе яны стараліся задержацца як найбліжэй да родных кутоу.

Гэтак сталося тое, што у момэнт выбуху Расейскай Рэвалюціі у усходняй Беларусі аказаліся сконцэнтрованымі блізка усе беларускіе сілы, апрача параскіданых па розных местах б. Расейскай Імперыі. Але і тые, каго доля закінула у чужыну, не пакі-

далі працаваць дзеля сваей Бацькаушчыны і свaего народу: беларуская нацыянальная работа пачала шпарка развівацца у Пецярбурзі, Маскве, Казані і т. д. Пры гэтым нацыянальная сьвядомасьць захапіла усе станы і усе кругі беларускага грамадзянства: ужо у самым пачатку рэвалюціі мы бачым за нацыянальной работай много чынных інтэлігэнцкіх сіл. Перш за усе мы адзначым учасьце у беларускім руху духавенства,—гэтай бязспорна вельмі важнай сілы у Беларусі.

Між каталіцкімі ксендзамі рух гэты падгатауляуся здауна у Пецярбурскай Духоунай Сэмінарыі і Духоунай Акадэміі (для Магілеускай дыэцэзіі), і у рэзультаце у момэнт упадку царызму мы бачым адкрытое арганізованае выступленьне беларускіх ксяндзоу: на зьездзі у Менску заснавауся Саюз Ксяндзоу-Беларусау, налічываючый каля 200 членау, між каторымі трэба адзначыць імены найбольш актыуных, як: кс. Астрамовіч, м. т. кс. Годлеускі (у Менску), кс. Сак, кс. Байко, м. т. Лісоускі, кс. Лапошко (у Магілеві), м. т. Шырокі (у Парафіянаве), кс. Шолкевіч, д-р філезофіі Бобіч (у Друі), кс. Будзька, д-р Абрантовіч, м. т. Цікота, м. т. Хвецько, кс. Жолнеровіч, кс. Версоцкі, кс. Олешкевіч, кс. Борык і інш. Закраталося і праваслаунае духавенство, цэнтрам каторага аказалася Масква: тут папалі блізка усе вывезеныя з Гродзеншчыны і Віленшчыны сьвяшчэнікі. На адбыушымся тамака у летку 1917 года зьездзі было каля 800 праваслауных сьвяшчэнікау-беларусау, вынесшых рэзалюціі у беларускім нацыянальным духу. Між праваслауным духовенствам выдзеляюцца імены протоерэя Кульчыцкага (у Мен-

ску), сьв. Усакоускаго, прот. Корчынскаго, сьв. Рэпніна і інш. Ячшэ да вайны і рэвалюцыіі між прафэсурай вышейшых і сярэдніх школ звертаюць на сябе увагу: праф. Б. Эпімах-Шыпілло, вядомы беларускі філелег праф. Е. Карскі, праф. М. Доунар-Запольскі, праф. Завіткевіч, праф. М. Масоніус, І. Краскоускі, Б. Тарашкевіч, Міткевіч; Р. Остроускі (у Слуцку), Довгялло, Сэрбоу і Кахановіч (у Магілеві) і інш. Далей ідуць прэдстаунікі розных вольных прафэсій: юрысты і журналісты: Яз. Варонка, А. Цвікевіч, Е. Хлебцевіч, Яз. Фарботка, юрысты: Л. Заяц, Рэутт, Борк, Андрушкевіч, Г. Богдановіч, Сушынскі, Чаусоу, Кажэмяка і інш., інжынеры: А. Уласоу, В. Іваноускі, Дубейкоускі, К. Душеускі, К. Годыцкі-Цвірко і інш., тэхнікі: Стульба, В. Грыневіч, Еутухоускі, Загорскі, Рудзік і інш., аграномы: А. Смоліч, Турчыновіч, В. Савіч, Марковіч, Черняускі, Г. Гарэцкі і інш., каморнікі: А. Аусянік, М. Гарэцкі, Метла, Міхневіч і інш., афіцэры: генерал Кандратовіч, генерал Алексееускі, генерал Короткевіч, палкоунік Курат, К. Езовітоу, М. Косьцевіч, Е. Ярушевіч, А. Зенюк, Р. Якубеня, І. Красоускі, Золотарэнка і інш , літэратары: Яз. Лесік, А. Прушынскі, А. Левіцкі, В. Голуб, Константын Міцкевіч, Я. Луцэвіч і чыноунікі: П. Крэчэускі, Э. Будзька, Яз. Дыло, А. Бурбіс, Б. Галавач, Грыневіч, Ч. Родзевіч, Л. Родзевіч, В. Сталыгва, Я. Серада, В. Захарка, Сьвірскі, Сенкевіч і інш., чысленые палітычные і культурные дзеячы: С. Рак-Міхалоускі, І. Васілевіч, д-р Ерэміч, Жывапісцау, Дворчанін, Мароз, і інш., урэшці вялікіе землеуласьнікі, як Раман Скірмунт, Княгіня Магдалена Радзівілл, А. Бонч-Осмолускі і інш.

Революція прызвала да работы дзеля беларускай справы доугі сьцях новых сіл, як інтэлігенцкіх, так і з народных масс. Адгукнулися і беларусы у арміі, ды гэта зусім зразумело: вялізарная часць ваеннаго фронту на усходзі праходзіла праз Беларусь. Пабач з організацией цывільнае часьць беларускаго грамадзянства і чысьленымі як агульна-беларускімі, так і правінцыональнымі, губэрскімі зьездамі,—партыйнымі і селянскімі, пачалося у арміі тварэньне беларускіх салдацкіх рад і камітэтау. Работа гэта не спынілася і тады, калі Керэнскі адмовіуся даць пазваленьне на выдзеленьне з арміі салдатау-беларусоу і на утварэньне нацыональных беларускіх войск. Ужо пасьля большэвіцкаго перэвароту у Менску, Слуцку і Вітэбску адбыліся вялізарные беларускіе вайсковые зьезды пауночна-заходняго фронту, і Кіеві—палудзенна—заходняго і у Одессі румынскаго фронту (зьезд у Кіеві шоу пад маршалкоуствам вядомаго беларускаго грамадзкаго работніка І. Краскоускаго з Вільні). У Менску утварылася Беларуская Вайсковая Рада і, ня глядзячы на прашкоды са стараны бальшэвікоу, организавауся першы нацыональны беларускіе пешы полк. Пачалі організавацца беларускіе кавалерыйскіе часьці такжэ на Румынскім фронці, у Магілеушчыне і іншых мейсцах. Беларускіе салдацкіе рады скора былі усюды, дзе толькі былі салдаты-беларусы.

Апрача работы чыста палітычнай, беларускі рух зьяуляуся такжэ і у пастаці культурна-эканамічнае работы: організаціі помачы уцекачом і высяленцам с фронту, а такжэ ладжэньні беларукіх школ. Гаворачы аб школах, трэба перш за усе адзначыць

закладзіны дзьвех беларускіх гімназій: у Слуцку (заложэна б. урадовым камісарам с часау Керэнскаго—Р. Остроускім) і у Буцлаві. Тварэньне сярэдніх школ тлумачыцца тым, што яшчэ перад вайной між вучыцелямі расеіскіх сярэдніх школ было много нацыянальна сьвядомых беларусоу, каторые пры першай магчымасьці і пасьпяшылі прылажыць свае сілы да тварэньня беларускай сярэдняй школы. Разівалася і шырэйшая акція дзеля завядзеньня беларускай мовы у касьцелах, даушая вельмі добрые рэзультаты: ужо у цэлым радзе касьцелау кажуць казаньня па беларуску. Разам с тым развівалася шыбка беларуская прэсса: у Менску, у Пецярбурзі адкрыуся цэлы рад беларускіх штодзенных і тыдневых часопісей розных кірункау: ад соцыялістычных да каталіцкіх, што сьвядчыць аб узросьці дыффэрэнціяцыі беларускаго грамадзянства.

Беларуская палітычная работа развілася пад двумя лозунгамі: нацыянальнаго адраджэня і—у першы пэрыод рэвалюцыі-аутаноміі Беларусі у межах фэдарацыйнай Расейскай Рэспублікі. Пры тагочасных варунках гаварыць аб нечым вялікшым не было ніякае магчымасьці, што пацьверджае факт, што нават шмат сільнейшая за беларусау Украіна не магла адкрыта гаварыць аб дзаржаунай незалежнасьці, укрываючы свае праудзівые палітычные ідэалы пад маскай аутономізму. Толькі у найбольш конспірацыйных кружках ішлі гутаркі аб шырэйшых палітычных ідэалах.

Завяршэньне беларускае палітычнае работы становіць Усебеларускі Зьезд у Менску ад 18 да 30 сьнежня 1917 г. н. с., каторы, як вядома, быу ра-

зогнаны большэвікамі. Зьезд складауся с 1167 выбарных дэпутатау ад валасьцей, паветовых і губэрскіх самаупраленьняу і мест беларускіх (нават Смаленск прыслау 10 дэпутатоу) с правам пастанауляючага голасу і с 705 дэпутатоу з голасам дарадчым і меу характэр Беларускай Констытуанты. Зьезд гэты пастановіу прыступіць да організацііі Беларускай Народнай Рэспублікі, прауда, згодне з духам мамэнту і рэальнымі варункамі, яшчэ у фэдэрацііі з Расеей, але і гэта пастанова аказалася не да спадобы большэвікам, каторые і далі прыказ разагнаць Зьезд, а Прэзідіум яго арэштаваць. Аднак Зьезд паспьеу яшчэ выбраць свой Выканаучы Орган, як першы орган уласьці самога Беларускаго Народу,—уласьці бязспорна законнай, бо выплываючай з выбароу ад самае асновы. Гэтак утварылася Рада Усебеларускаго Зьезду, каторай у далейшым суджэно было адыграць вялікую і важную ролю.

Усебеларускі Зьезд, а асабліва яга разгон, меу страшэньне вялікую вагу і яшчэ дзеля аднае прычыны. Ужо раней беларускіе нацыональные дамаганьня сустрэчаліся с сурьёзнымі прашкодамі са стараны большэвікоу, каторые у іх бачылі буржуазнасьць і контррэволюціонізм. Разгон Зьезду, як самае найгрубейшае пасяганьне на вярхоуные правы Беларускаго Народу на яго зямлі, давеу разрыу беларусау з большэвікам да канца.

Цьверда стаючы на грунці будаваньня сваей асобнай гасударственасьці, Рада Усебеларускаго Зьезду прызнала патрэбным, каб у гэтай рабоці мелі голас і національные меншасьці; яна павялічыла свой складкооптаціей членау Беларускай Вай-

сковай Рады і дэпутатау ад земства і местовых рад і дапусьціла дэпутатау ад нацыональных меншасьцей. Гэтак утварылася організацыя с характэрам Прэдпарлямэнту Беларусі пад названьнем Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Рада выдзяліла спаміж сваіх членау выканаучы—орган Народны Сэкрэтарыят Беларуссі с функціямі міністэрства пад кіраунiцтвам вядомага беларускага дзеяча і б. Старшыні Рады Усебеларускаго Зьезду—Язэпа Варонкі.

Організацыя беларускай уласьці і приступленьне яе да спауненьня сваіх чыннасьцей зыйшліся з момэнтам адходу большэвіцкіх войск, і Народны Сэкрэтарыят выпауняу свае функції да прыходу немцау і устанауленьня окупацыйнаго упрауленьня.

Аднак, ані Рада Б. Н. Р., ані Народны Сэкрэтарыят немцамі не былі развязаны і далей выпоунялі свае функціі у тых межах, у якіх гэта была магчымо. А у першы чарод, яны заняліся справай прауна-дзержаунаго палажэньня Беларусі. Тутъ узнялася вострая коллізія між беларусамі і організацыямі большэвіцкімі, трэба адзначыць, зложэнымі с прэдстаунікау чужых нацый. Пад той час, як беларусы (а такжэ частка жыдоу) цьверда стаялі за поуную гасударственую незалежнасць Беларусі і разрыу дзержауных звязей з Расеей, большэвіцкіе элемэнты дабіваліся прызнаньня фэдэралізму з Расеей. На заседаньні Рады Беларускае Рэспублікі 24/25 марца 1918 г. з учасьцем дэлегаціі Беларускае Рады з Вільні кольлізія гэта знайшла сваю развязку у формэ, якой жадалі беларускі самостійнікі. Гэта давяршыло пачаушыйся на Усебеларускім Зьездзі разрыу беларусау з большэвікамі, і элемэнты, жадаушыя за усе-

лякую цану удзержаць еднасць з Вялікарусіей, выступілі з Рады Беларускае Рэспублікі. Была прынята рэзолюцыя: „Рада Беларускай Народнай Рэспублікі аб'яуляе Беларускую Народную Распубліку незалежнай і выдае аб гэтым Устаувую Грамату“.

Тэкст Устаунай Граматы высказывае прызнаньне поунай дзержаунай незалежнасьці Беларусі, каторая лічыць адгэтуль разарванымі дзержауные зьвязі з Расейскім Гасударствам, даушые апошняму магчымасць падпісаць і ад імені Беларусі шкодны для яе Берасьцейскі Трактат.

Цяпер пасьля праклямаціі Радай Б. Н. Р. незалежнасьці Беларусі і разрыву дзержаунай зьвязі з Вялікарусіей—правы, на дзержаунае палажэньне Беласі як у адносінах да Рассі, так і да Нямеччыны зьмяніліся. І беларусы маюць поуную веру, што Нямеччына у імя абапольных нямецка-беларускіх эканамічных інтэрэсау, вынікаючых с прыродных, гэографічных і палітычных варункау, прызнае праклямацію нежалежнасьці Беларускай Дзержавы і акажэ ей помач у будаваньні новаго жыцьця, прыдбаушы гэтак сабе удзячнаго саюзьніка. А той факт, што такі саюз будзе вынікаць не са зьменных сымпатый і настраеньняу, а з рэальных абапольных карысьцей, становіць заверэньне трываласьці прыязных адносін між адраджаючайся Беларусью і тэй дзержавай, каторая у гэты, мо найважнейшы у жыцьці Беларусі, момэнт працягне ей руку памачы.

У канцы трэба адзначыць, што, прыступаючы да будовы сваей гасударственасьці, Беларусь ужо цяпер мае зачаткі гасударственай організаціі.

Вельмі важную ролю адыграу тут факт, што у

усходняй Беларусі яшчэ за некалькі гадоу перад вайной было заведзено земскае самаупрауленне, каторага Літва і нават Польша былі зусім пазбаулены.

Ня гледзячы на тое, што правы беларускіх земств былі спачатку вельмі агранічэны, тут утварылася для мейсцовых сіл школа грамадзкаго жыцьця і грамадзкай гаспадаркі. Вайна шмат пашырыла задачы земства у Беларусі у зьвязку с патрэбаю абслужываньня праходзіушаго праз Беларусь ваеннаго фронту спажыунымі прадуктамі і т. д. А рэвалюцыя памагла далей шай эманцыпацыі беларускіх земст, аддаушы у рукі грамадзянства блізка усе тыя функцыі, якіе пры царскім урадзе спаунялі гасударственные чыноунікі. На жаль, пры апошніх выбарах туды папалі людзі чужые для краю і часта шкодные для яго.

Так сама важную ролю адыгралі меставые самаупрауленьня.

Істанаваньне самаупрауляючыхся організацый і гасударственна-творчых беларускіх сіл становіць паруку у тым што прызнаньне незалежнасьці Беларускай дзержавы знайдзе прыгатованы ужо дзеля гасударственаго жыцця Беларусі грунт, і жыцце гэтае шыбка пачне развівацца асабліва тады, як пасьля ліквідацыі вайны вернуцца у Беларусь параскіденые па усей Расеі беларускіе культурные сілы.

Літэратурны і грамадзянска-палітычны тыднявік

# „ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ“

(2-гі год выдання)

выходзіць у Менску.



**Выдавец**

ТАВАРЫСТВО БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

Рэдактар **Язэп Лёсік.**

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:

Менск, Захароуская вул., 18.

ПЕРШЫ

літэратурна-грамадзянскі, навучна-гістарычны і эканамічны штомесячнік

# „ВАРТА"

выходзіць у Менску ад 1 верэсня 1918 г.

**пад агульнай рэдакцыей ЯЗЭПА ВАРОНКО.**

Супрацоўніцтво у штомесячніку «Варта» прыймаюць:

**Ефім Белевіч, Язэп Дыло, Костусь Езавітоў, Ромуальд Земкевіч, праф. Ефім Карскі, Петрук Крэчэўскі, Эўгені Ладноў, Владыслаў Ластоўскі, Леонід Леушчэнка, Антон Саросек, Аркадзь Смоліч, Янка Станкевіч, Паўлюк Трэмповіч, Эўгені Хлебцэвіч і мн. інш.**

У штомесячніку „ВАРТА" друкуюцца стацці, як у беларускай мові, так і у велікарускай, немецкай і польскай мовах.

**Цэна асобнаго №—1 рубель.**

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:

**Менск. 2-гі Госпітальны завул., 7.**

Адчынена у панядзелак і чэцьвер ад 11—1 гадз. ў дзень.